*Адвакат Віннікавай лічыць, што яна ўтрымлівaецца пад вартай беспадстаўна (стар. 2) Незалежнасць Беларусі: погляд з Польшчы (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 40 820
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 29 студзеня 1997 № 9 Кошт свабодны

## У Савеце Еўропы рэжым Лукашэнкі абараняў Жырыноўскі

**27 студзеня ў Страсбургу Парламенцкая Асамблея Савета Еўропы не памяняла рашэння аб часовым прыпыненні на нявызначаны тэрмін статусу Беларусі як спецыяльна запрошанай ў гэтай міжнароднай арганізацыі.**

На брыфінгу перад паседжаннем сесіі старшыня ПАСЕ Лені Фішэр падкрэсліла, што расцэньвае падзеі пасля беларускага рэферэндуму як *«незаконныя»* і таму Савет Еўропы не мог прыняць гэты рэферэндум. Па словах Лені Фішэр, Савет Еўропы будзе захоўваць кантакты з дэмакратычнымі сіламі Беларусі.

Пасля адкрыцця сесіі Парламенцкая асамблея СЕ перавыбрала Лені Фішэр на пасаду старшыні ПАСЕ. Супраць яе перавыбрання галасаваў лідэр ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі, які заявіў, што *«па асабістай ініцыятыве пані Фішэр Беларусь пазбавілі статусу спецыяльна запрошанай»*. Лені Фішэр адказала, што такое рашэнне было прынята па рэкамендацыі ўсяго Бюро ПАСЕ.

З дапаўненнем да справаздачнага дакладу на паседжанні выступіў віцэ-прэзідэнт ПАСЕ Тадэвуш Івіньскі (ён узначальваў дэлегацыю Савета Еўропы, якая пабывала ў Беларусі 24—27 лістапада). Тадэвуш Івіньскі падкрэсліў, што *«спосаб, якім быў сфармаваны новы заканадаўчы орган, пазбаўляе яго дэмакратычнай легітымнасці, а канстытуцыйная рэформа і рэферэндум супярэчылі дэмакратычным стандартам і паставілі пад пагрозу будучае дэмакратычнага развіцця ў Беларусі»*.

Пры абмеркаванні даклада беларускую тэму закрануў толькі дэпутат Дзярждумы Расіі Сяргей Глотаў, які лічыць, што рашэнне Бюро ПАСЕ адносна Беларусі патрэбна пераглядзець і *«запрасіць у Страсбург прадстаўнікоў розных партый і груп, якія дзейнічаюць у новым парламенце»*. Кіраўнік расійскай дэлегацыі Уладзімір Лукін наогул адмовіўся ад запланаванага выступлення. Старшыня Лені Фішэр падвяла вынік, што *«ў адпаведнасці з еўрапейскімі стандартамі мы не можам прыняць не выбраных, а прызначаных дэлегатаў»*.

**Юрась СВІРКА**

## Міністру цікава паглядзець, як прысягаюць спецназаўцы



**У мінулую нядзелю ва ўсіх ваенных гарнізонах маладыя салдаты прымалі вайсковую прысягу.**

Як паведамілі ў прэс-службе міністэрства абароны, прысягу на вернасць Беларусі ў гэты дзень прынялі амаль 7 тысяч ваеннаслужачых. Нядаўна прызначаны міністр абароны генерал-лейтэнант Аляксандр Чумакоў наведаў 26 студзеня 5-ю асобную брыгаду спецыяльнага прызначэння, якая знаходзіцца ў Мар'інай Горцы (Мінская вобласць). Тут прымалі прысягу больш за дзвесце навабранцаў.

Пасля заканчэння ўрачыстага рытуалу міністр абароны разам з афіцэрамі Галоўнага штаба і камандаваннем брыгады прысутнічаў на паказальных занятках падраздзяленняў часці.

*БелаПАН*

*На здымку: прысяга пад пільным кантролем міністра абароны.*

## Беларусь папросіць NATO заплаціць за інтэграцыю з Расіяй

**Мінск спадзяецца ў хуткім часе далучыцца да перамоваў Бруселя і Масквы ў справе кампенсацыі, якую Расія жадае атрымаць у абмен на пашырэнне NATO.**

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч. Ён патлумачыў, што падчас нядаўняга візіту ў Маскву гэтая тэма абмяркоўвалася на перамовах з расійскім калегам Яўгенам Прымаковым. Па словах сп.Антановіча, *«хаця змест маскоўскіх перамоваў генеральнага сакратара NATO Хаўера Салана і не афішуецца, Беларусь прадставіць свой пакет інтарэсаў на наступны раунд перамоваў»*.

Менш амбіцыйныя планы ў Мінска адносна супрацоўніцтва з еўрапейскімі арганізацыямі. У мінулы панядзелак у Мінск па запрашэнні беларускага боку прыбыла прадстаўнічая камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі АБСЕ, Еўрапейскага Саюза і Савета Еўропы. У першы дзень візіту дэлегацыя правяла перамовы з Аляксандрам Лукашэнкам, а таксама з афіцыйнымі асобамі прэзідэнцкай адміністрацыі. Тэма перамоваў — паслярэферэндумная сітуацыя ў Беларусі. Для больш грунтоўнага азнаямлення з беларускай рэчаіснасцю плануюцца сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі, у тым ліку з дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

На пытанне *«Чаго чакае беларускі бок ад візіту»* сп.Антановіч адказаў: *«Нічога, акрамя, як данесці праўду аб сітуацыі ў Беларусі»*. Запозненая рэакцыя Мінска на выключэнне Беларусі з Савета Еўропы, замарожванне пагаднення з Еўрасаюзам, а таксама непрызнанне АБСЕ прэзідэнцкіх парламенцкіх структур амаль не пакідае шанцаў беларускаму кіраўніцтву на прарыў ізаляцыі. Але, па словах кіраўніка місіі Ары Коста: *«Дэлегацыя толькі збірае інфармацыю, а вырашаць далейшы лёс стасункаў Беларусі з еўрапейскімі структурамі будуць у Еўропе»*.

**Ю.К.**

## Ці будзе сустрэча?

**У працяг кампаніі па запалохванні крамлёўскага кіраўніцтва ў бліжэйшы час павінна адбыцца сустрэча прэзідэнтаў Беларусі, Украіны і Польшчы.**

Па словах міністра замежных справаў Беларусі Івана Антановіча, напярэдадні сустрэчы трох прэзідэнтаў адбудзецца нарада міністраў замежных справаў трох краінаў. Згоду на сустрэчу з беларускім прэзідэнтам нібыта ўжо далі Аляксандр Квасьнеўскі і Леанід Кучма.

**Ю.К.**

## Дэпутаты працуюць амаль у падполлі

**Сёння павінна адбыцца чарговае паседжанне дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання.**

Месца, дзе будзе праходзіць дэпутацкі сход, не афішуецца. Дэпутаты апасаюцца, што ім могуць перашкодзіць правесці паседжанне. Галоўным у парадку дня значыцца даклад дэпутата Людмілы Гразновай па бюджэце на 1997 г.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Брэсцкую крэпасць «замініравалі»

**Брэсцкая крэпасць стала аб'ектам тэлефонных тэрарыстаў.**

У панядзелак, 27 студзеня, у 7:50 у Ленінскі РАУС Брэста пазваніў невядомы і папярэдзіў, што крэпасць замініравана і хутка адбудзецца выбух. Сапёры і міліцыя абследавалі ўсю тэрыторыю музейнага мемарыяла, але ніякага выбуховага прыстасавання не знайшлі.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Дом на замку

**На гэтым тыдні ў мінскім мікрараёне Малінаўка планавалася раздача ключоў жыхарам 9-павярховага дома, які Лукашэнка царскім жэстам «аддаў» творчай інтэлігенцыі. Аднак, як паведамілі нам учора ў ЖЭС №116, гэты ўрачысты момант зноў пераносіцца на няпэўны тэрмін.**

Нагадаем: яшчэ 5 кастрычніка мінулага года была наладжана ўрачыстая цырымонія здачы гатовага дома асабіста прэзідэнту Лукашэнку. З таго часу вакол дома цягнецца мышыная валтузня. Кватэрныя квоты размяркоўваліся кіраўніцтвам справамі адміністрацыі прэзідэнта па розных «творчых» міністэрствах, ведамствах і арганізацыях. Тут будзе жыць, напрыклад, кінарэжысёр Юрый Азаронак, які зрабіў гіганцкі «ўклад» у айчыннае мастацтва брудным прапагандысцкім фільмам «Дзеці хлусні». Паселяцца тут і дырэктар Тэатра оперы і балета Анатоль Кірыенка, рэжысёр Міхаіл Пташук, карэспандэнт «АТН» Юрый Шамшур і многія іншыя. Усяго ў 177-м доме па вуліцы Слабадской 249 кватэраў.

Размеркаванне кватэраў усё яшчэ працягваецца, некаторыя жыхары толькі цяпер атрымоўваюць ордэры, а некаторыя яшчэ чакаюць царскага рашэння. Як паведамілі ў ЖЭС №116, на 24 студзеня «аформіліся» толькі 150 чалавек. Значная частка кватэраў застаецца пуставаць і па тэхніцы бяспекі падключаць газ да дома нельга.

Будаўнікі ўжо стаміліся ахоўваць гэты дом. У маразы прарваліся трубы і многія кватэры заліло вадой, давялося пераклейваць шпалеры. Увогуле дом нічым асабліва не адрозніваецца ад іншых, хіба што ў кватэрах устанавілі лічыльнікі за газ і ваду (мусіць, каб творчыя людзі ў часы натхнення не забываліся зачыняць краны). А вось кухні ў гэтым доме невялікія — ўсяго 7,2 $м^2$ (побач стаяць дамы з кухнямі па 9 $м^2$). Відаць, гэтым мяркуецца, што творчыя людзі сытыя духоўнай ежай і кухня для іх — месца не вельмі патрэбнае.

Кожны дзень ЖЭС №116 дае справаздачу ў кіраўніцтва справамі адміністрацыі прэзідэнта, колькі жыхароў гатовыя засяліцца. У адміністрацыі паведамілі, што пасля поўнага засялення ўсімі жыхарамі сур'ёзна зоймецца служба кантролю, якая праверыць законнасць атрымання кватэры.

У адміністрацыі прэзідэнта таксама паведамілі, што ўрачыстай цырымоніі раздачы ключоў з рук самога Лукашэнкі не намячаецца: *«президент не будет стрелять из пушки по воробьям»*.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Чыкін – намеснік мэра Мінска

**Вядомы ў Беларусі «таварыш» Віктар Чыкін прызначаны намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама па пытаннях ідэалогіі.**

Бадай, не варта здзіўляцца высокай «хлебнай» пасадзе лідэра КПБ. Ён яе заслужыў добрасумленнай працай па расколе шэрагаў беларускіх камуністаў напярэдадні рэферэндуму 24 лістапада 1996 года.

Праўда, на ўладным Алімпе былі разыходжанні ў ацэнцы гэтай дзейнасці. У прыватнасці, мэр Мінска Уладзімір Ярмошын лічыў палітычныя заслугі Чыкіна недастатковым аргументам для прызначэння яго ў свае намеснікі. Галоўны «вертыкальшчык» сталіцы не гарэў вялікім жаданнем засмечваць кадравую гвардыю мэрыі такімі адыёзнымі асобамі. Аднак, пасля сур'ёзнай размовы з прэзідэнтам краіны, кіраўнік Мінгарвыканкама мусіў пусціць «казла ў агарод».



*Віктар Чыкін задаволены.*

Прынамсі, Аляксандр Лукашэнка, відаць, усё ж меў рацыю, благаслаўляючы Віктара Чыкіна на адказную дзейнасць у горадзе, які кішыць палітычнымі «ворагамі». У Чыкіна — выдатнае мінулае ў плане вопыту ідэалагічнай працы з грамадзянамі. Сакратар парткама Мінскага гадзіннікавага завода, другі сакратар Мінскага гаркама КПБ, галоўны рэдактар газеты «Мы и время» — гэта далёка не поўны пералік пасадаў яго працоўнай біяграфіі.

Праўда, шматгадовая дзейнасць Чыкіна па ўкараненні ў беларускае грамадства камуністычных ідэяў была не вельмі выніковая. Але зараз, як бачым, у яго з'явіўся добры шанц для рэабілітацыі свайго таленту як прафесійнага прапагандыста. Аднак цяпер яму давядзецца прапагандаваць трохі іншую ідэалогію. Да ведама новага намесніка мэра даведзена, што вялікія дзяржаўныя грошы яму, высокапастаўленаму камуністу, будуць плаціць за тое, каб сеяў у грамадскай свядомасці сталічнага жыхарства вучэнне, вядомае ў народзе як ідэалогія лукашызму.

**Міхал ХВАЙНІЦКІ**

## Бывший лидер комсомола Литвы просится под защиту белорусского президента

**Бывший секретарь ЦК комсомола Литвы Валерий Макеев надеется, что в самое ближайшее время власти Беларуси примут решение о предоставлении ему политического убежища.**

Как сообщил Макеев, документы на имя президента Беларуси Александра Лукашенко с просьбой о предоставлении убежища были переданы 20 декабря. С того времени бывший комсомольский вождь находится в Минске. *«В Литве после прихода Ландсбергиса к власти сложилась такая ситуация, что оставаться я там не могу»*, — заявил Макеев.

По его словам, среди документов, переданных Лукашенко, — подробное заявление о мотивах просьбы и ряд последних статей в литовской прессе, касающихся его личности. *«Если я являюсь гражданином Литвы и про меня в этом государстве довольно часто появляются статьи с заголовками приблизительно следующего содержания: «Час расплаты для врагов независимости еще не пробил», «Как живут бывшие оккупанты», я считаю уже этих фраз достаточно для подтверждения факта определенных политических гонений и создания условий невозможности проживания в стране»*, — заявил Макеев.

Комсомольский лидер высказал надежду, что решение о предоставлении ему политического убежища будет принято в самое ближайшее время.

В то же время Макеев признал, что отношение к нему у белорусской стороны неоднозначное. Власти пока предоставили ему лишь условия для временного проживания (по информации *BNS*, это отдельная комната в общежитии одного из минских институтов). *«Но за месяц никто ни разу не спросил, чем я питаюсь и есть ли у меня вообще деньги»*, — отметил лидер комсомольцев. Кроме того, он признал, что не в курсе, видел ли вообще президент Беларуси документы, поданные на его имя. В связи с этим литовский гражданин добивается сейчас встречи с Лукашенко.

*BNS*

*Погляд з Польшчы*

# Незалежнасць Беларусі: усё яшчэ наперадзе

**Рышард РАДЗІК**

У пачатку 1997 г. сітуацыя ў Беларусі нібыта стабілізавалася: прэзідэнт Лукашэнка мае неабмежаваную ўладу, апазіцыю амаль поўнасцю вычысцілі з органаў улады, дзяржава кантралюе сродкі масавай інфармацыі. Але ці азначае гэта, што апазіцыйныя сілы зусім страцілі шанцы на грамадскую падтрымку? Якраз не.

Адначасова з рэферэндумам у лістападзе 1996г. праходзілі давыбары ў Вярхоўны Савет — і на іх Беларускі народны фронт адназначна мог разлічваць на некалькі дэпутацкіх месцаў, іншыя апазіцыйныя партыі — таксама. У Лукашэнкі ж, наадварот, практычна не было шанцаў атрымаць новых прыхільнікаў у парламенце. У гэтым і заключаецца адказ на пытанне, чаму Лукашэнка разагнаў Вярхоўны Савет.

Сацыялагічныя апытанні пастаянна фіксуюць папулярнасць прэзідэнта на ўзроўні сарака з лішнім працэнтаў. Ягоныя магчымыя канкурэнты на гэтую пасаду ніяк не пераадоляць бар'ер хаця б у 10%. Беларускае грамадства, якое панесла непараўнальныя з іншымі страты ў часы сталінскіх рэпрэсій і апошняй вайны, баіцца сацыяльных узрушэнняў. Здаецца, яно хоча, каб ім кіравалі моцна і эфектыўна, а ці законна — ужо не так важна.

Выйграўшы (сфальсіфікаваўшы) рэферэндум, разагнаўшы парламент і падпарадкаваўшы сабе Канстытуцыйны суд, Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз атрымаў перамогу ў стылі, які ў замежных назіральнікаў выклікае толькі ціхі жах і недаўменне. Беларускі прэзідэнт неаднаразова ва ўвесь голас выказваў пагарду да закона, прыкрываючыся інтарэсамі і воляй народа Беларусі. Апазіцыя надта слабая, каб атрымаць перамогу. Але — пакуль што слабая.

### Расійскія ўплывы

Беларуская палітычная культура ў многім звязаная з расійскай. У канфлікце паміж прэзідэнтам і парламентам абодва бакі разлічвалі на ўмяшанне Расіі. І Лукашэнка трымаецца пры ўладзе, бо забяспечвае прыналежнасць Беларусі да расійскай сферы ўплываў.

Масква з пэўнасцю магла б пазбавіць яго ўлады. Але Расія пакуль не мае ні свайго кандыдата, які б карыстаўся падтрымкай у беларускім грамадстве, ні больш-менш законнага спосабу паставіць іншага чалавека на гэты пост. Да таго ж Расія памятае, які «сюрпрыз» зрабіў ёй Леанід Кучма, калі быў абраны прэзідэнтам Украіны. Два з паловай гады назад Расія падтрымлівала Вячаслава Кебіча — а ён прайграў Лукашэнку. Таму цяперашні беларускі прэзідэнт будзе сядзець на сваім месцы, пакуль не зробіць памылкі, якая дыскваліфікуе яго ў вачах расіянаў (і ў вачах беларускіх эліт улады).

Калі адразу пасля распаду Савецкага Саюза лепей было з беларускага, а не з расійскага боку мяжы — расіяне ехалі ў Беларусь (асабліва маладыя людзі, якія такім чынам пазбягалі магчымай вайсковай службы ў Чачні). Цяпер, калі адносна лепш жывецца ў Расіі, беларусаў цягне да ўсходняга суседа.

Народ Расіі ўвогуле станоўча ставіцца да ўсякіх аб'яднаўчых тэндэнцый. Аднак гэта зусім не азначае, што расійскія калгаснікі і рабочыя гатовыя масава пайсці на барыкады пад лозунгамі адбудовы імперыі або што яны, прыходзячы на працу, думаюць толькі пра ўзмацненне ўсходнеславянскай еднасці. У той жа час падобныя думкі не даюць спакою значнай частцы расійскіх эліт: **для іх суверэнныя беларусы і ўкраінцы — не што іншае, як антырасійская правакацыя.**

### У апазіцыі да Захаду

Як піша ў газеце «Свабода» палітолаг Валерый Карбалевіч, беларускаму грамадству *«ўвесь час падносіцца і навязваецца варожае стаўленне да Захаду, яго ладу жыцця, палітычнай сістэмы, заходняй цывілізацыі ўвогуле»*. Беларускі прэзідэнт выказваецца прасталінейна: *«Заходнія каштоўнасці не маюць нічога агульнага з менталітэтам беларускіх людзей»*, *«Я сваё грамадства за цывілізаваным светам не павяду»*. Ствараецца дэманічны вобраз Захаду, які драпежна шчэрыць іклы супраць Усходу, у тым ліку Беларусі. У такім святле падаецца і магчымасць набліжэння *NATO* да беларускай мяжы.

Вобраз паляка ў вачах многіх беларусаў па-ранейшаму звязваецца з панскай Польшчай — шавіністычнай і эксплуататарскай. Засталіся перажыткі стэрэатыпу 30-х гг.: паляк — значыць шпіён і вораг савецкай улады. У 80-я гг. з'явіўся вобраз паляка-гандляра, а ў 90-я — стала ясна, што Польшча дасягнула эканамічнага поспеху і моцна абагнала Беларусь паводле ўзроўню жыцця. Паляк для сярэдняга беларуса — чужы. Свой — гэта рускі, такі ж бедны і галодны.

### Эканамічная разруха

Да гэтага часу ў беларускай эканоміцы не адбылося істотных рэформаў. Беларусы маюць вельмі нізкі ўзровень прыватызацыі, нестабільныя і няпэўныя эканамічныя законы, значнае зніжэнне інвестыцый, амаль поўнае знікненне валютных запасаў дзяржавы, мізэрную долю замежнага капіталу. Паводле эканамічных паказчыкаў Беларусь выглядае горш нават за Расію.

Эканамічная палітыка Лукашэнкі нішчыць і без таго слабое прыватнае прадпрымальніцтва, камерцыйныя банкавыя структуры, невялікі замежны капітал. Інтэграцыйныя працэсы з Расіяй падтрымлівае некалі магутны ваенна-прамысловы комплекс. Супраць прыватызацыі выступае калгасна-саўгасная бюракратыя, а таксама большасць вясковых жыхароў, якія прывыклі мысліць толькі ў катэгорыях «барацьбы за ўраджай». Даўнія «добрыя часы» памятае рабочы клас. Новая беларуская наменклатура разлічвае атрымаць цёплыя месцы ў наддзяржаўных чыноўніцкіх структурах, якія ўзнікнуць у працэсе інтэграцыі. У Беларусі не з'явіўся сярэдні клас, які не толькі быў бы зацікаўлены ў «капіталістычным» пераўтварэнні краіны, але мог бы змагацца і за сапраўдную эканоміку, і за дэмакратычныя каштоўнасці.

Аднак пераадоленне эканамічнай адсталасці Беларусі будзе каштаваць надзвычай дорага. Прасцей кажучы, чым бяднейшыя беларусы, тым мацней яны хочуць далучыцца да Расіі і тым больш супраціўляецца гэтаму сама Расія.

### Нелюбоў да партый

Адносіны беларусаў да палітычных партый — а ў выніку, і да парламента — прынцыпова іншы, чым у заходніх грамадствах. Непрыняцце людзей выклікаюць не толькі канкрэтныя палітычныя партыі і аб'яднанні, нярэдка адмаўляецца сам прынцып парламентарызму. Гісторыя паказала: чым больш беларускі парламент хацеў быць самастойны і незалежны ад выканаўчай улады — тым больш у грамадскай свядомасці ён успрымаўся як кампанія дармаедаў, якія не могуць падзяліць паміж сабою ўладу і прывілеі. У грамадстве моцна прыжыўся міф, што ў Беларусі існуе даўняя традыцыя адзінаасобнай улады. Паняцце раўнавагі галінаў улады для беларускага народа чужое і незразумелае.

Прычыны гэтай з'явы варта шукаць, з аднаго боку, у спадчыне ідэй расійскага царскага самаўладдзя, а з другога — у тым, што былая КПСС апаганіла само паняцце палітычнай партыі. Таму **беларусы ў большасці сваёй антыпартыйныя**, а Беларускі народны фронт — палітычная структура, найбольш падобная да партый заходнееўрапейскага тыпу, — не меў у апошнім Вярхоўным Савеце ніводнага прадстаўніка. Самай вялікай групай у парламенце былі фармальна «незалежныя» (беспартыйныя) дэпутаты. Электарат ніяк не абмяжоўвае іх і дазваляе кіравацца меркаваннямі кан'юнктуры і асабістай выгады. Той факт, што значная колькасць дэпутатаў Вярхоўнага Савета зрабіла антыканстытуцыйны пераход у ніжнюю палату прэзідэнцкага органа, адназначна сведчыць пра адсутнасць дэмакратычнай базы ў беларускім грамадстве. Са згоды народа парламент робіцца такой жа фікцыяй, якой на працягу дзесяцігоддзяў быў у савецкай сістэме.

Разам з тым Лукашэнка, падпарадкоўваючы сабе ўсе дзяржаўныя структуры, ліквідуе магчымасці разрадкі для грамадскай напружанасці — і такім чынам стварае перадумовы для моцнага сацыяльнага выбуху.

### Магчымая роля Польшчы

Сёння прысутнасць польскай культуры ў Беларусі значна меншая, чым у 80-я гг. Зніклі з рынку польскія газеты і кніжкі. Некалі Польшча была для беларусаў самым простым і хуткім шляхам да несавецкай культуры. У заходніх раёнах Беларусі людзі ўсталёўвалі саматужныя антэны, каб глядзець польскае тэлебачанне, а праграму *Lato z radjem* праз прыёмнікі слухалі нават у аддаленым ад мяжы Мінску. Сёння Масква амерыканізуецца значна хутчэй за Варшаву. Захад прыйшоў у Беларусь з усходу.

У беларускім грамадстве развіваюцца два працэсы, якія часткова перакрыжоўваюцца. З аднаго боку, распаўсюджваецца сістэма каштоўнасцяў, якую прапагандуюць расійскія сродкі масавай інфармацыі. Па-другое, выразна фармуюцца асяродкі, настроеныя апазіцыйна да цяперашняга рэжыму. Пры гэтым частка апазіцыі свядома трымаецца беларускай мовы, вызначаецца выразнай нацыянальнай арыентацыяй, бачыць перспектывы развіцця Беларусі ў кірунку не Расіі, а Захаду (самай моцнай арганізацыяй гэтага напрамку быў і застаецца БНФ). Сярод астатніх прыхільнікаў апазіцыі большасць выказвае свае погляды на дэмакратычную, незалежную, цывілізаваную Беларусь па-руску, бо лозунгі свабоды і дэмакратыі ўспрынялі з расійскіх СМІ. Ёсць, аднак, і такія — напрыклад, камуністы, — якія, хоць не прымаюць Лукашэнку, выбіраюць з масавай расійскай культуры каштоўнасці, якія не маюць з дэмакратыяй нічога агульнага.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці і часовыя паражэнні апазіцыі, няма падставаў гаварыць, што гістарычны лёс Беларусі раз і назаўсёды вырашаны. **Мінск ізноў стане перад праблемай выбару шляхоў развіцця**. І Польшча павінна быць зацікаўленая падтрымкай тых сілаў у Беларусі, якія выбіраюць нацыянальную і дзяржаўную самастойнасць. У хуткім часе — на павароце гісторыі — Беларусі спатрэбяцца эканамісты, палітыкі, журналісты, інтэлектуалы. І Польшча па меры магчымасці павінна дапамагчы — запрашаць маладых людзей на вучобу ва універсітэтах, выдзяляць для іх стыпендыі, арганізоўваць фонды, канферэнцыі, семінары. Польшча павінна стаць пасрэднікам у кантактах беларусаў з Захадам і **прадстаўляць інтарэсы той Беларусі, якая хоча быць незалежнай і дэмакратычнай.**

Гэта павінна рабіцца спакойна і без стварэння канфліктных сітуацый. Гэта не можа суправаджацца антылукашэнкаўскай рыторыкай польскіх уладаў, ад якой няма ніякай карысці, і дэманстратыўнымі жэстамі палітыкаў, якія нічога не могуць дадаць да беларуска-польскіх афіцыйных адносін, акрамя паглыблення антаганізму. У той жа час нельга наладжваць кантакты з Мінскам праз Маскву і рабіць крокі, якія надавалі б Лукашэнку палітычную вагу на міжнароднай арэне.

Польшча не мае права адгарадзіцца ад Беларусі. Наадварот — павінна ўсё больш адкрывацца на беларускае грамадства, асабліва на эліты. Пакуль што ў гэтым напрамку палякі зрабілі вельмі мала.

*Rzeczpospolita*

*Рышард Радзік — прафесар універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне*

## Чернобыльская АЭС должна быть остановлена

*Так считают западные специалисты*

После того как в декабре прошлого года украинскими властями был остановлен первый реактор Чернобыльской АЭС, в настоящее время там продолжает работать лишь один из четырех реакторов — третий энергоблок. Этот реактор расположен в непосредственной близости от бетонного саркофага, закрывающего обломки четвертого реактора, разрушенного во время взрыва десять лет назад и являющегося, по мнению западных экспертов, очень ненадежной защитой.

В декабре 1995 года Украина дала письменное обещание странам «большой семерки» полностью закрыть Чернобыльскую станцию к 2000 году. В качестве компенсации Киев должен получить финансовую помощь в сумме 3,1 миллиардов долларов, 500 миллионов из которых уже выплачены ему в виде различных займов. Тем не менее, переговоры об использовании этих фондов зашли в тупик. До остановки первого реактора ЧАЭС давала 6,2% от общего объема электроэнергии. Чтобы восполнить эту потерю, Украине придется ввести в строй два новых ядерных реактора: в Ровно и в Хмельницке. Кроме того Украина угрожает Западу вновь запустить второй реактор ЧАЭС, остановленный в 1991 году в результате пожара.

Проблема безопасности АЭС в Восточной Европе продолжает стоять со всей остротой. Недавно стало известно еще об одной серьезной аварии, до сих пор державшейся в тайне, в результате которой в 1982 г. на Чернобыльской станции погибло несколько человек. По мнению западных специалистов *«не следует продолжать пользоваться реакторами старого образца (в России и Литве насчитывается 13 таких реакторов), которые представляют собой особую опасность и должны быть немедленно остановлены»*.

*Подготовил* **Владимир АБАНИН**

# «Азіяцкія» клопаты мінскай міліцыі

**У Мінску ў 2-пакаёвай кватэры Заводскага раёна ўхітрыліся адначасова пражываць ажно 80 грамадзянаў Індыі.**



*Гэтых грамадзянаў Турцыі міліцыя высачыла яшчэ ў Мінску, а затрымалі іх у Гродне — перад спробай незаконнага пераходу мяжы.*

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі начальнік упраўлення ўнутраных справаў сталіцы Барыс Тарлецкі, гэты табар нелегалаў міліцыя выявіла і затрымала зусім нядаўна. Мінск для індусаў быў перавалачнай базай для далейшага незаконнага пераходу мяжы на Захад. Генерал Тарлецкі адзначыў, што за мінулы год у Мінску было выяўлена ажно 72 групы іншаземцаў-транзітнікаў, кожная з іх налічвала да 80 чалавек. Па ягоных словах, у 1996 г. у сталіцы да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці за ўчыненыя злачынствы прыцягненыя 4,5 тыс. замежных грамадзян.

Аднак, канечне, міліцэйская статыстыка галоўным чынам, фарміруецца за кошт айчыннага крымінальнага кантынгенту. Напрыклад, летась у Мінску было ўчынена амаль 22.600 злачынстваў, што болей, чым у папярэднім годзе. Б.Тарлецкі лічыць, што галоўнымі прычынамі росту злачыннасці з'яўляюцца эканамічны спад і звязаная з ім сацыяльная напружанасць у грамадстве. У прыватнасці, колькасць эканамічных злачынстваў у параўнанні з папярэднім годам павялічылася на 439, а ўсяго іх зарэгістравана 5.153.

Разам з тым, адзначыў генерал Тарлецкі, працягваецца рост колькасці цяжкіх крымінальных злачынстваў, асабліва забойстваў, у тым ліку заказных. Па словах кіраўніка мінскай міліцыі, па-ранейшаму большую частку забойстваў учыняюць людзі ў нецвярозым стане. Дарэчы, у мінулым годзе ў мінскіх спецвыцвярэзніках пабывала 17.350 чалавек, што ў 3 (!) разы больш, чым у 1995 годзе. Сёння ў сталічных наркалагічных дыспансерах на ўліку стаяць 25 тысяч чалавек, з іх 3,5 тысячы — жанчыны. А за самагонаварэнне да адказнасці прыцягнута 573 жыхары Мінска.

Барыс Тарлецкі таксама шчыра прызнаўся, што ў мінулым годзе за розныя парушэнні і злачынствы было пакарана больш за 600 работнікаў міліцыі.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Асцярожна: на дарогах жанчыны!

**Больш за палову дарожна-транспартных здарэнняў адбываецца ў Магілёве па віне пешаходаў.**

Пра гэта паведаміла прэс-служба дзяржаўтаінспекцыі. Цікавая дэталь: большасць пешаходаў-парушальнікаў — жанчыны.

**Іван ЗАСАДА**

## Ахвяра газавай запраўкі

**На газаразмеркавальным пункце ў вёсцы Ёдкі каля Ліды здарыўся няшчасны выпадак.**

Раптоўна выбухнула газавае полымя, у выніку чаго чатыры чалавекі атрымалі апёкі, адзін з іх у бальніцы памёр.

**А.А.**

## Няма куды прыйсці з сабакам

**У Лідзе згарэў будынак мясцовага клуба сабакаводаў.**

Аматары сабак звычайна збіраліся тут на свае штотыднёвыя сходкі. Відаць, некаму (можа, аматарам катоў?) гэта было недаспадобы — у ход пайшлі бензін і запалкі. Цікава, што да пажару клуб тройчы ўжо рабавалі.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

## «Зялёны рух» па-магілёўску

**У Магілёве ёсць жанчыны, гатовыя ахвяраваць сабой дзеля жывой прыроды.**

У мікраёне «Мір-2» работнікі жыллёва-эксплуатацыйнага ўпраўлення прышлі ў двор аднаго са шматпавярховых дамоў з піламі і сякерамі. Аднак яны паспелі спілаваць толькі два дрэвы: іхнія дзеянні выклікалі рашучы пратэст жанчын, якія жывуць у гэтым доме. Не дабіўшыся ад камунальнікаў ніякіх тлумачэнняў, кабеты рашуча абхапілі ствалы рукамі і заявілі, што з месца не сыдуць. Мужыкам нічога не заставалася, як узяць сякеры пад пахі і пайсці прэч.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Калядны шлях вядзе на дачы

**У работнікаў камунальнай службы г.Ліды немалы клопат: за час усіх калядна-навагодніх святаў з пад'ездаў дамоў знікла некалькі дзесяткаў дзвярэй.**

Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ намеснік дырэктара Лідскага прадпрыемства камунальнай гаспадаркі Віктар Вайтулевіч, дзверы ў асноўным здымаюць жартаўнікі падчас традыцыйных калядных начных гулянняў. Але што цікава: выканаўшы свае святочна-рытуальныя функцыі, дзверы чамусьці перавандравалі на дачы некаторых жыхароў горада.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

## Служылі не Богу, а грашам

**Дырэктарка магілёўскай прыватнай фірмы «Шарм», прыкрываючыся шыльдай царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў, абкрадвала іншыя фірмы.**

Яна спасылалася на тое, што разам з мужам заснавала царкву, а таму супрацоўніцтва з «Шармам» — высакародная і дабрачынная справа. Напрыклад, увайшоўшы ў давер да кіраўніка фірма «Белтрансфер», дырэктарка-«верніца» заключыла дамову на касметыку ў 16 мільёнаў рублёў, але не правяла дакументы праз бухгалтэрыю і пасля адмовілася вяртаць грошы. У другі раз тая ж жанчына праз знаёмага-адзінаверніка атрымала на даверанасць маёмасць у фірме «Белолбі» (кошт каля 42 тысяч долараў ЗША). Маёмасць была распрададзена, а грошы кіраўніца «Шарма» пакінула сабе.

Урэшце, калі міліцыя арыштавала вынаходлівую дырэктарку, у яе знайшлі грошай і тэхнікі амаль на 100.000 долараў. Як высветліла следства, і муж зладзейкі, прэсвітэр царквы «Адраджэнне», таксама замешаны ў цёмных справах сваёй жонкі.

**Іван ЗАСАДА**

## Хвароба прывяла да самагубства

**У Віцебску скончыла жыццё самагубствам 31-гадовая Ларыса К., сіротамі засталіся двое малых дзяцей.**

Жанчына праз акно выкінулася з трэцяга паверха Віцебскай абласной бальніцы. Атрымаўшы цяжкія траўмы, яна памерла на месцы. Да гэтага Ларысу К. у таксікалагічнае аддзяленне прывезла «хуткая дапамога»: жанчына праглынула 140 таблетак но-шпы.

Такім чынам, відавочна, што Ларыса К. цвёрда вырашыла развітацца з жыццём. Хутчэй за ўсё, на такі скрайні крок яе падштурхнуў грозны дыягназ: сістэмная чырвоная валчанка. На жаль, сучасная медыцына лячыць гэтую хваробу не навучылася...

**Барыс ХОЛАД**

## Расчараваліся ў жыцці

**У старажытным Навагрудку, райцэнтры Гродзенскай вобласці, узрастае колькасць самазабойстваў.**

Летась там скончылі жыццё самагубствам ажно 37 чалавек, а ў папярэднім, 1995 годзе, было зарэгістравана 22 факты суіцыду. Пракуратура, якая праводзіць праверкі па кожным трагічным выпадку, адзначае, што прычынай самагубства часцей за ўсё з'яўляецца расчараванне людзей у жыцці. Нярэдка здараецца таксама, што людзі развітваюцца з жыццём у выніку сур'ёзных канфліктаў на бытавой глебе.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

## Выйшлі на дарогу і загінулі

**У горадзе Чэрыкаве Магілёўскай вобласці грузавы аўтамабіль наехаў на пешаходаў.**

У выніку адзін чалавек загінуў, а два трапілі ў бальніцу ў вельмі цяжкім стане. Расследванне паказала, што кіроўца быў невінаваты: пешаходы нечакана выйшлі на праезджую частку з тратуара перад самымі коламі грузавіка.

**Іван ЗАСАДА**

## Забойства за 200 метраў ад міліцыі

**У Гомелі на мінулым тыдні невядомыя забілі адміністратара папулярнага маладзёжнага дыск-клуба «Лайт».**

Здарылася гэта ў 2 гадзіны ночы. Жанчына загінула ад нажа злачынцы ў пад'ездзе дома, дзе яна жыла. Дарэчы, дом гэты знаходзіцца ўсяго за 200 метраў ад будынка абласнога ўпраўлення гомельскай міліцыі.

**Мікалай ГРЫПІЧ**

### У ПОЛЬШЧЫ

## Сам сябе тры разы пахаваў

**У горадзе Плоцку паліцыя затрымала Вальтэра Т., грамадзяніна ЗША польскага паходжання.**

Ашукваючы чыноўнікаў, ён ухітрыўся тройчы атрымаць пасведчанне аб уласнай смерці. Вальтэр Т. кажа, што рабіў гэта проста так — дзеля «спартовага інтарэсу». Аднак паліцыя падазрае, што нешта тут нячыста.

## Экзамены важнейшыя

**Кракаўскі суд прыгаварыў да года пазбаўлення волі ўмоўна і штрафу чалавека, які скраў у сваёй жонкі-настаўніцы 20 экзаменацыйных работ вучняў.**

Як высветлілася, 42-гадовы Ян Д. такім чынам шантажаваў жонку і патрабаваў, каб яна яму аддала фатаграфіі, на якіх сямейная пара была зафіксаваная ў інтымных момантах. Суд палічыў, што эратычныя фатаграфіі — прыватная справа сям'і, а вось экзаменацыйныя работы маюць вялікую грамадскую важнасць.

## Заказное забойства за 150 долараў

**У горадзе Шчэціне 18-гадовы Яраслаў Д. наняў забойцу, каб адправіць на той свет уласнага бацьку.**

Ролю кілера выканаў ягоны 14-гадовы прыяцель. Пасля забойца патлумачыў паліцыі, што яму патрэбныя былі грошы, каб заплаціць за кватэру. За забойства ён атрымаў 400 злотых (каля 150 долараў).

## Каханне і смерць

**У горадзе Лодзь 17-гадовы хлопец скочыў з даху шматпавярховага будынка і разбіўся.**

У перадсмяротнай запісцы ён патлумачыў, што вырашыў развітацца з жыццём, бо яго кінула каханая дзяўчына. Пры гэтым свае ўнутраныя органы ён завяшчаў для перасадкі хворым.

**М.Н.**






### ШАНС

## Открытый конкурс по программе «Акт в поддержку свободы» в 1997 году

Правительство Соединенных Штатов Америки сообщает о проведении открытого конкурса на соискание стипендий для продолжения высшего образования в США. Эти стипендии, выделяемые в рамках программы «Акт в поддержку свободы», были учреждены и финансируются Конгрессом США. В программе могут принять участие студенты 1—3 курсов высших учебных заведений с 5-летним сроком обучения и студенты 1—2 курсов с 4-летним сроком обучения.

Граждане Республики Беларусь, победители конкурса (8 человек), получат возможность пройти курс теоретической подготовки и повысить профессиональную квалификацию в американских университетах по следующим дисциплинам: **сельское хозяйство, коммерческая деятельность, электронно-вычислительная техника, уголовное право, экономика, образование, охрана окружающей среды, английский как иностранный язык / обучение английскому как иностранному, журналистика и средства массовой информации, библиотековедение и информационные технологии, политология, здравоохранение и социология.** Кроме того, студенты смогут пройти 4—6 недельную стажировку.

Конкурс на соискание стипендии «Акт в поддержку свободы» является открытым и доступным каждому жителю Республики Беларусь. Кандидаты на участие в программе отбираются на основе анализа анкетных данных, хорошего знания английского языка, профессиональной компетентности и инициативности в области своей специализации.

Подробный список требований к участникам конкурса по программе «Акт в поддержку свободы» включен в форму заявления, которую можно получить в Информационном центре фонда Сораса по вопросам образования в США и в офисе ACTR/ACCELS. В течение последующих двух лет после окончания учебы стипендиант не имеет права участвовать в аналогичных американских программах, что является непременным условием конкурса.

Обращайтесь:

**ACCELS**
220005 Минск,
просп. Ф.Скорины, 31/8
тел.: (017) 236-68-83

**Информационный центр фонда Сороса**
220610 Минск,
ул.Сурганова, 15
тел.: (017) 262-88-88

© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 40.820
Нумар падпісаны ў друк 28.01.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 261